# ДЗЕЯЧАС

*літаратурны агляд № 13 (2008 ) Лявона Вашка*

## МЫ ВЕРНЕМСЯ

**Гэтая прастора застаецца нават пасля выгнання. Забраная, акупаваная чужынцамі, яна ўсё роўна працягваецца няскоранай, падпольнай вечнасцю. Прастора вечнасвабоды дзесьці там – пад руінамі Духу, у растаптаным пачуцці Беларусі, у глыбежы шчаслівых сноў... Гэтая прастора – акупаваная душа, захопленая ворагам, але непераможная, няздрадная, непрадажная, непадкупная... Гэта прастора нашае волі, нашае думкі, нашае мовы... прастора пачэснага шляху – нашага вяртання і вызвалення.**












***АЛЕСЬ МАСАРЭНКА***





***

***А я ня вечны, я ня вечны –***
***затое вечны мой народ.***
***У запаветны пункт канечны***
***прыйду бяз нейкіх там прыгод.***

***Спакойна лягу, бы ў калыску,***
***і з сеціва сучасных сноў***
***збягу далей куды ад Мінску –***
***да Проні родных берагоў.***

***А там, як некалі ў маленстве,***
***у вір з абрыва ныр цану...***
***І Смерць у ярасным шаленстве***
***павысіць за мяне цану.***

***Кут родны ў памяці трымае***
***ўсіх , хто ня здраджвае яму...***
***Душа свой кут не забывае –***
***і непадкупная таму.***














# ПЯЦІКНІЖЖА

*У розныя гады XX стагоддзя выйшлі пяць кніжкаў Лявона Вашка. У іх пісьменнік апублікаваў свае творы прозы, драматургіі, публіцыстыкі, літаратурнае крытыкі.*




## ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГІСТОРЫІ

**К**ніжка "Еўрапейскія гісторыі" пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" у 1995 годзе зборам у 4000 асобнікаў. Кніжку склалі 24 апавяданні.

## ПАЭТЫ-ЦАРЫ




**К**ніжка "Паэты-цары" пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1997 годзе зборам у 1000 асобнікаў. У кніжку ўвайшлі трыццаць пяць апавяданняў. Выйшла пры падтрымцы абласнога ўпраўлення энэргетыкі "Гроднаэнэрга" і беларуска-гярманскага прадпрыемства "Самана-плюс".




## ГІСТАРЫЗАЦЫЯ СВЯДОМАСЦІ

**К**ніжка "Гістарызацыя свядомасці. Беларуская літаратура і беларушчына на пачатку XX стагоддзя" выдадзеная ў Мастох, Гародні й Менску самастойна. Збор 500 асобнікаў. У ёй надрукаваныя нарыс "Гістарызацыя свядомасці" і сем артыкулаў. Надрукаваная ў Менску ў друкарні "Арбор".

## МАЛЕНЬКІ СШЫТАК
***(першы выпуск)***




**К**ніжку "Маленькі сшытак Лявона Вашка" (першы выпуск), якая выдадзеная ў Мастох, Полацку, Гародні а 2000 годзе зборам у 299 асобнікаў, склалі дзённікавыя запісы і лісты пісьменніка. Надрукаваная пры падтрымцы грамадскага аб'яднання "Ратуша". Друкар Ігар Лысееў.




## МАЛЕНЬКІ СШЫТАК
***(другі выпуск)***

**К**ніжка "Маленькі сшытак Лявона Вашка" (другі выпуск) выдадзеная ў Мастох і Менску а 2000 годзе зборам у 299 асобнікаў. У кніжку ўвайшло апавяданне, тры п'есы, а таксама літаратурна-крытычныя артыкулы і рацэнзіі. Надрукаваная на абсталяванні Свабодных прафсаюзаў Беларусі. Друкары Пётар Толлар і Гянадзь Пляшко.

# ЗАЙГРАЎКА ДА БЕЛАРУСКАЕ ДУХАХРАМНАСЦІ



***Гэтая прамова надрукаваная ў другім выпуску "Маленькага сшытку Лявона Вашка". Яна прачытаная ў 1997 годзе ў Полацку а часе ўручэння літаратурнае прэміі "Гліняны Вялес".***

Хочацца, скарыстаўшыся з сённяшняга прыемнага выпадку, сказаць пра асабліваe жыццё беларускага мастацтва ў вакольным цяперашнім свеце – пра ягоную жывасвятнасць. У нашай краіне мастацтва заўсёды існавалася дваяка:

як прадмет рэчаіснасці, якая процістаяла творчасці жывога Беларускага Духу,

і як зьява, якая ў канчатковым выніку духатварыла паўсюдную чужынскую прадметарэчаіснасць.

Іначай, мастацтва як дух знаходзілася ў заўсёдным проціборстве з раальнасцю, разам з тым пераўтвараючы яе. Галоўная роля гэткай адмысловай творчасці-дойлідства належала, вядома ж, прыгожаму пісьменству.

Якраз прыгожае пісьменства нарадзіла нацыянальную рэчаіснасць на пачатку ХХ стагоддзя; нараджэнне гістарычнай Беларусі – фяномен найперш мастацкі, духовы, псіхічны, а тады ўжо сацыяльна-гістарычны. Гістарычнае ўрэчаісненне беларускае дзяржаўнасці напрасткі вынікае з глыбіннага мастацкага вобразу Беларусі, які стварыла маладая нашаніўская, і паслейшая, літаратура. Як засведчыў наступны час, вобраз гэты неўміручы, бязмежнанапаўняльны і бязмежнатворчы; па сутнасці, Беларусь ніколі не жыла напоўніцу істапраўдна-рэчаісна, і як прадметная рэчаіснасць яна заўсёды была проста атнічным краем, мёртвым, ня здатным на якоесьці паўнавартаснае нацыянальнае жыццё; і разам з тым ад першых сваеx дзён Беларусь жыватварылася духова, вобразамастацкі – і гэтае карэнным чынам бурыла ўсе аб'ектыўныя законы свету акурат мастацкаю свабодаю Духу; паводле гэтае бязмежнае мастацтвасвабоды, наперакор аб'ектыўным і мізэрным законам рэчаіснасці раб стаўся творцам, той, хто нарадзіўся поўзаць, здолеў паляцець да неба, а старажытныя гукі і сугуччы, якім было наканавана ціха сканаць-змоўкнуць пад гэтым небам, спалучыліся ў тайнічую песню маладое беларускае душы і выявілі ў свеце новы народ і новую культуру.

Разуменне велічы і сілы духатворчасці асабліва важнае сёння, калі беларускае мастацтва апынулася на новым вітку рэчаіснага проціборства. Паўсюдная паняверка, што апанавала нашых пісьменнікаў, – вынік гэтага процістаяння, у якім выявілася абавязковае пярэчанне між мастацкім чынам і аб'ектыўнасцю: моц выбухаў Духу заўсёды выяўляе моц рэчаіснае провівадуховасці; і ўвадваротку, духазаняпад азначае ўладу мёртвага рэчаіснага прадметасвету над жывіннаю дзеяю Духу, уладу сатаны-разбуральніка над чалавекам-творцам. Вось чаму паняверка ў сучаснай нацыянальнай літаратуры, маральны паралюш, нежаданне тварыць з пустасвету наш духакрай сёння кажа на ўнутраны заняпад мастацтватворчасці.

Выйсце ў гэткім становішчы можа быць толькі адное: трэба як хутчэй выцірaць слёзы і ўшчыльную брацца за будаўніцтва беларускага Храма Духу – краіны нашае духовае Творчасці; іначай кажучы, мастацкі творчы чын, свядомае проціпастаўленне беларусазнішчэннню беларусатворчасці мусяць зрабіцца галоўнаю задачаю, галоўнаю мэтаю і галоўным спосабам нацыянальнага існавання. Той бяздонны мастацкі вобраз беларускасці, запалены на пачатку ХХ стагоддзя нашымі першымі дойлідамі, вобраз, які надалей вырэчаісніў і Беларусь, і нас саміх, трэба асвяціць новымі выбухамі Беларускага Духу, трэба збудзіць новымі сполыскамі Беларускага Светатварэння. Сатану, які сёння гуляе баль на абсягах Бацькаўшчыны, мы здолеем змагчы, калі патрапім вытварыць насуперак яму наш боскі свет – чысты, ясны, беларускі, свет Духу

і Творчасці. Вайна ж з сатаною ў той спосаб, да якога ён штурхае, павяртае да разбурэння і заняпаду, да яшчэ большае паняверкі і да яшчэ большага асатанення, якія ёсць зараз. Плюгавага можна выкараніць, адно ствараючы, але не руйнуючы; толькі ў гэтае барацьбе між тварэннем і руйнаваннем згіне тое, што даўно належыць сатане ды даўно мусіць згінуць і бяз нашых высілкаў, і народзіцца тое, што сёння чакае ад нас аграмадных духовых вымогаў у справе беларускага светатварэння. На мёртвых пацяробах, што пакідае па сабе плюгавы, мы пасеем міллёны жывых беларускіх словаў і выспелім міллёны неўміручых беларускіх ідэяў; мы наталім жывымі мастацкімі вобразамі беларускага свету міллёны сэрцаў, якія прагнуць гэтых вобразаў і мастацкага сутварэння, і абудзім прагу да святой беларушчыны ў міллёнах людзей, якія ўсё яшчэ дрэмлюць у навакольным прамінулым, ужо ўчорашнім свеце.

Вось некаторыя мае меркаванні наконт духахрамнае творчасці, з якімі мне хацелася б падзяліцца сёння і якімі б мне хацелася кіравацца ў пісьменстве.

*1997*

## *Твораадгук*

# КНІГАВОЛЯ

***Мікола Аўрамчык. Анкета.***
***Выбраныя вершы, паэмы, успаміны.***
***Менск, "Мастацкая літаратура", 1990. С. 447.***

Сустракаюцца кніжкі, якія не выбіраеш – яны самі знаходзяць чытача, прыходзяць у хату і асяляюцца ў душы; унутраная воля сшытых старонкаў нейкім неўяснёным чынам пільнуе цябе ў наканаваным месцы, якое немагчыма абмінуць. Гэтак знайшла мяне і кніжка Міколы Аўрамчыка "Анкета". Адбылося тое напачатку 90-х гадоў прамінулага стагоддзя. Я працаваў у часопісе "Родная прырода" – разам з рэдакцыяй часопіса "Хозяин" нас высялялі з памяшкання. "Хозяин" выехаў першы, пакінуўшы па сабе на калідоры кніжкі з рэдакцыйнае бібліятэкі. Приступ клептаманіі не дазволіў мне прайсці міма пакінутае літаратуры. З калідору "Анкета" разам з іншымі выданнямі перамясцілася на маю кніжную паліцу.

Вершы Міколы Аўрамчыка хвалююць са студэнцтва... Бываюць творы, перачытваючы якія заўважаеш, што яны страцілі былы чар, – тое, што некалі заваблівала душу, больш не кранае. Творчасць Міколы Аўрамчыка ня толькі ачароўвае па-ранейшаму, але адкрывае новае, не заўважанае і не адчутае некалі: унутраная воля "Анкеты" разгортвае перад табой прастору, якую ты спасцігаеш – шлях.

У аснове творчасці Мікалая Якаўлевіча Аўрамчыка знаходзіцца пачуццё высокае чалавечае годнасці, якое сталася апірышчам пісьменніка ў найгоршых, пагранічных праявах



*Мікола Аўрамчык і Рыгор Барадулін. 1963 год.*
*Здымак узяты з кніжкі "Анкета".*

жыцця. У Ганса Хрыстыяна Андэрсана ёсць казка пра стойкага алавяннага салдатыка: зьяўляючыся чыёйсьці забаўкаю, ён тым ня менш служыць унутраным маральным прынцыпам; скалечаны ў баёх, без нагі, пакінуты ўсімі, салдатык усё адно самаахвярна прыймае наканаваныя выпрабаванні; у гульнях і падманах стратэгаў ды палітыкаў ягоная сумленнасць, вернасць самому сабе, свайму высокаму прызначэнню – тая неадменная ісціна, на якой і трымаецца ўсей свет...

Мікола Аўрамчык пайшоў на вайну са студэнцкае парты. Ён ваяваў на Волхаўскім фронце, у арміі, якая ўвесну 1942 году апынулася ў акружэнні, была разбітая немцамі, і рэшткі якой патрапілі ў палон. Дзеля выжывання можна было б зрабіць гэтак, як зрабіў генярал апалоненага войску – перайсці на бок ворага, – але радавы салдат, палонны ды няскораны, выбраў вернасць свайму салдацкаму доўгу. Гэты ўчынак ёсць ключ да літаратуры Міколы Аўрамчыка, бо раскрывае ягоную творчасць як шчырасць, і выклікае ў чытача давер да шчырасці, і напаўняе энэргіяй волі ягоныя кніжкі.

Я той,
хто жыў між мёртвых,
двойчы
Памінкі справілі па кім:
Бяз вестак я прапаў аднойчы
І пахаваны быў
жывым.

Гэтыя радкі, знойдзеныя ў праўдзе і глыбіні ўласнага лёсу – сімвалічная, сціслая аўтабіяграфія-прарочанне; тут – усей творца ад юначых вершаў, напісаных у волхаўскім лесе каля “кацюшы”, у разліку якой ён ваяваў, і ўсцяж да выкінутай *хозяином* з кабінета на калідор “Анкеты”.

У балючай тканцы рэчаіснасці, што адлюстраваная ў ягоных вершах, адчуваецца паэзія гераізму і самаахвярнасці.

Страшныя і шчымлівыя малюнкі з франтавога блакноту:

Расхрыстаныя насцеж вокны, брамы,
Пакрыўджаныя хаты і двары
З паўзмроку паўставалі перад намі,
Калі мы вёску бралі на зары.

Ляжала ў снезе мёртвая дзяўчына,
Сівыя косы зблыталіся ў жмут...
Не разглядзеў я –
пабяліў іх іней
Ці пасівелі гэтак ад пакут.

Тут жа гучаць з блізкай смерці ў знікненне жыцця жахлівыя вобразы з блакноту ваеннапалоннага:

Сёння
Побач на нарах
Памёр мой сусед.
Больш ня будзе ён трызніць у сне.
Зараз я на чарзе...
Можа, заўтра чуць свет
Звалакуць з гэтых нар і мяне.

Ні здароўя, ні сіл.
Не ўстаяць на нагах.
Не ўтрымаць на плячах галавы.
Набліжаецца з поўдня
Вясна па лугах.
А тут мёртвым зайздросціць жывы.

Выразная тэма сумленнасці перад самім сабою поўніць кнігаволю “Анкеты” рэчаіснасцю жывое, незнішчальнае душы. Вершы і ўспаміны пісьменніка прасякнутыя вобразамі



***Мікола Аўрамчык і Янка Брыль. Чэрвень, 1974 год. Здымак узяты з кніжкі “Анкета”.***

мужнасці. У зборніку неаднойчы прыгадваецца паэт Муса Джаліль – палітрук, які гэтакжа, пад Волхавам, патрапіў у палон, дзе арганізаваў антыфашысцкае падполле і быў пакараны смерцю; ягоны зборнік вершаў “Маабіцкі сшытак”, што напісаны ў няволі й выдадзены пасля смерці паэта, стаўся сімвалам стойкасці й няскоранасці.

Моцнае ўзнёслае пачуццё радзімы, Беларусі – маральны стрыжань Міколы Аўрамчыка. Беларусь прысутнічае скрозь усю творчасць пісьменніка і ўкнігаволеная ў “Анкеце” незнішчальнай вернасцю Айчыне. У юначым вершы “Уначы перад наступленнем” вобраз бацькаўшчыны зьяўляецца ў трывожны момант прадчування бою:

Зараз у далёкіх родных Плёсах
Маці будзе да зары тужыць...
Аб маім неразгаданым лёсе
Паспрабуе, ўрэшце, варажыць.

У вершы “Думы ў капальні”, што напісаны ў часе нямецкага палону і катаржных працаў на шахце ў Руры, вобраз Беларусі – адзіная жыўленчая надзея ў цяжкім, перадсмяротным стане:

Вырвацца б з глыбокае капальні
Хоць бязногаму, але жывому,
І па сцежках, па дарогах дальніх
На радзіму дапаўзці дадому.

Пачуццём бацькаўшчыны, тугою па ёй прасякнуты верш “Беларуская сасна”, напісаны на шахце ў Данбасе, дзе з таўром ваеннапалоннага давялося працаваць Міколу Аўрамчыку пасля вайны:

З кожнай штольні пахне беларускай,
Баравой,
смалістаю сасной...
Пад зямлёй праход нязручны, вузкі
Выглядае просекай лясной.

“Анкета” поўніцца бацькаўшчынаю з першых старонкаў да апошніх. У прадмове да зборніка Рыгор Барадулін піша: “Вершы Міколы Аўрамчыка беларускія сваёй канкрэтнасцю і акрэсленасцю, сваёй прыхаванай глыбінёй і стрыманасцю, сваёй радасцю і замілаванасцю.”

У вершавобразах, у вершах-прысвячэннях, ва ўспамінах паўстаюць людзі й падзеі, якія твораць Беларусь – кнігаволя “Анкеты” цамянтуе творчыя асновы нашае нацыі; на старонках кніжкі даваенны Менск, з тога часу пазіраюць на нас Эдзі Агняцвет, Пятрусь Броўка, Змітрок Бядуля, Платон Галавач,

Пятро Глебка, Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Янка Купала, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны..; з жывіннага творчавобразу "Анкеты" завітваюць у душу Алесь Астапенка, Анатоль Астрэйка, Анатоль Вялюгін, Алесь Бачыла, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі, Андрэй Макаёнак, Іван Мележ, Рыгор Няхай, Максім Танк, Пімен Панчанка, Піліп Пестрак, Аляксей Пысін...; з памяці, з нябыту, з даваенных газетных публікацыяў, з абрыўкаў студэнцкіх насценгазетаў прыйшлі на старонкі "Анкеты" палеглыя на вайне беларускія пэты, сярод якіх й інстытуцкія сябры Міколы Аўрамчыка – Аляксей Коршак і Мікола Сурначоў...; тут жа працягваецца Беларусь у маладзейшым пакаленні творцаў, сярод якіх Вячаслаў Адамчык, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Караткевіч... "Анкета" – зборнік яснай і светлай памяці, якая кранае сваімі ўзвышанасцю і чысцінёю.

Некалі Пімен Панчанка заўважыў у вершы "Беларуская сасна" сканцэнтраваную сутнасць творчасці Міколы Аўрамчыка. Гэткім вершасімвалам, у які ўмяшчаецца бяздонне лёсу і творчасці Міколы Аўрамчыка, можа быць, на мой погляд, і безымянны верш, які паэт прысвяціў свайму баявому таварышу. Гэта лёсны верш, з асабістае "біяграфіі" – у ім выразна бачыцца сам аўтар, "уваскросшы з мёртвых, жывы, бяз вестак прапаўшы рана гвардыі радавы"; але разам з тым гэта твор, дзе вершасвет ахоплівае пражыты час агульнагісторыі і вобразна вечніць імклівую пражытасць – у ім, з-за зарадкоўя праступае праўда часу, чыстая, без хлусні, бяз зманлівага шалупіння рэчаіснасці, бяз фальшы бяздарных здрадлівых генералаў ды бяздарных пустадомных *хозяинов*... Верш – з тых страшных таямніцаў прысутнасці, куды знікаюць бяз весткаў стойкія алавянныя салдатыкі й адкуль пасівелыя мудрацы прыносяць ашаламляльныя адкрыцці; ён знайшоўся між абрыўкаў тонкае павалокі жыцця ў акружаным ворагам Мясным Боры пад Волхавам і ў ім жыве трагедыя перажытае вайны, драма франтавога пакалення і ўчэпістае, нязможанае пачуццё ўласнага жыцця. Штосьці біблейскае гучыць у гэтых радках, запавядальнае і вечнае, дзе няўпыннае прадно апакаліпсісу адно сведчыць пра веліч маленькай, якая большая, чым падманлівы свет, ісціны салдата – вернасць.

***

*Сяргею Круціліну*

Я ўпершыню сустрэў франтавіка –
Аднапалчаніна з трагічных месцаў...
Тады прапала і твая рука
Там,
дзе прапаў я не адзін бяз вестак.

Я
сёння ў сне,
нібыта наяву,
Убачыў,
як яна,
адна,
бяз цела,
У сутаргах абмацвала траву,
Як быццам пісталет знайсці хацела.

Над Волхавам шуміць пахмурна лес...
Я да цябе ўваходжу ціха ў дзверы,
Бездапаможна звіснуў твой пратэз –
Трымаць ня можа на стале паперу.

Нальём законных франтавых сто грам,
Зірнём на іх журботнымі вачамі
І ў думках скажам баявым сябрам:
"Мы п'ём за вас,
сябры-аднапалчане!"




***"Анкета"выйшла зборам у 3 400 асобнікаў. Аформіў кніжку мастак Пётар Калінін. Прадмову да зборніка напісаў Рыгор Барадулін.***

***"Паэт сябе адчувае радавым, але без радавых няма арміі, без радавых няма войска. Якраз радавыя займаюць вышыні, а генералы толькі рапартуюць. Так і ў арміі, так і ў паэзіі".***
***Рыгор Барадулін. Прадмова да зборніка "Анкета". С. 14.***

# Анкета

***Некалькі вершаў Міколы Аўрамчыка са зборніка “Анкета”.***

## *Беларуская сасна*

З кожнай штольні пахне беларускай,
Баравой,
смалістаю сасной...
Пад зямлёй праход нязручны, вузкі
Выглядае просекай лясной.

Столь над нізкім вугальным забоем
Падпірае стойка не адна.
Некаторая з іх над табою
Зарыпіць, як голлямі сасна.

Цісне яе зверху цяжкі камень,
Грунт падрэзаны асеў на ёй
Тысячагадовымі пластамі
На паўкіламетра таўшчынёй.

Не такі цяжар яна ўтрымае,
Выступіць, як пот, з яе смала,
А сасна,
упартая,
прамая
Хоча зноў прабіцца да святла.

Ты з настойлівасцю вугаль колеш,
Іскры пырскаюць з-пад малатка...
Родная сасна пад цяжкай столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

*1947*

## *Першае ворыва*

Даўно ўжо растралі снягі.
Аратыя выйшлі на спробу...
Ад сонца блішчаць плугі
І твары у хлеваробаў.

Хлапцы акуратна,
з густам
Ўздымаюць скібамі дол,
Нібы для гасцей на стол
Адрэзваюць хлеба лусты.

Зярняты –
хоць зараз сей.
Зверху прыпарвае ў плечы,
Насустрач у твар нясе
Водарам кменным, як з печы.

Не адысці аніяк
Ад цёплай вясновай глебы...
І ўжо адчуваеш смак
Новага свежага хлеба.

*1948*

***

Не трывожся гэтак,
маці,
аба мне:
З таго свету
мне няма павесткі...
Ты і ў снах
наведвала мяне,
На вайне,
прапаўшага бяз весткі.

Мо таму
і ў страшным пекле выжыў я,
Як з мяне
ні здзекаваліся чэрці,
Бо я ведаў,
родная мая:
Не перажывеш
маёй ты смерці.

І таму я прагавіты да жыцця...
Ты дарма ўстрывожылася, маці:
Ахмялеў я
ад прыліву пачуцця
І ад радасці
прытомнасць страціў.

*1964*

## *Ноч у Ташкенце*

*Аляксею Пысіну*

У нумары ташкенцкага атэлю
Нязведаная сіла уначы
Падкінула на ложках,
як гантэлі,
Двух
спячых непрабудным сном
мужчын

Яны спрасонку селі на матрацах.
Адзін сабе пад нос замармытаў,
Другі,
калоцячыся,
як ад трасцы,
Дрыжачым,
ціхім голасам спытаў:

– Што гэта здарылася?!.
– Навальніца, –
З балкону штору адхінуў сусед.
Хоць гром не грукатаў,
ды бліскавіцаў
Скрозь дзённае святло
відаць быў след.

А ў калідоры – тупат,
шум, гамонка...
Хто валачыў панічна чамадан,
Хто ўлегцы бег,
а хто ўцякаў спрасонку
Паспешна захінуўшы коўдрай
стан.

Іншакраінка нейкая
з істэрыкай,
Каб як адвесці ад сябе бяду,
Тлумачыла нябёсам:
– Я – Амэрыка! –
Зашпільваючы ліфчык на хаду.

Прачнуўся ў ноч стыхійнага
няшчасця
І кожны з гэтых двух
былых салдат:
Адзін –
нібыта пад бамбёжкай часць іх,
Другі –
нібыта ад пальбы гармат.

*1968*

***

Абавязкова ўбачыць неабходна
Яго асветлена-ўрачысты твар,
Дзе ўласная адлюстравана годнасць,
Калі глядзіць з-пад каскі сталявар,
Як сталь цячэ па гарнавой дарожцы,
Плыве ў індустрыяльны краявід,
І як сняжынкамі раіцца ў лётцы
І зырка ўспыхвае над ёй графіт;

Або –
як заклінальнік ці танцоўшчык –
За голавы хапаючы рукой,
Са стана
змеяў вогненных
вальцоўшчык
Адну выхоплівае за другой, –
Каб зразумець душою,
разабрацца
І ўсёй істотаю адчуць,
што ёсць
У самай цяжкай
чалавечай працы
Свая паэзія
і прыгажосць.

*1975*

***

Зьявілася ў аэрапорце
Жанчына боскае красы,
Відаць, завіўшы на курорце
Каштанавыя валасы.

Прыгожа
лёгкаю рукой
Яна разгортвала паперкі
І смакавала за шчакой
Аэрафлоцкія цукеркі.

Сама ў сукенцы паркалёвай
З букетам выглядала так, –
Хоць ты партрэт з яе змалёўвай,
Нібы з натуршчыцы –
мастак.

Пяюць набожныя старыя
Хвалу да бога дзеве той,
Што хтось назваў
святой Марыяй,
А я малюся не святой.

Хваліць і славіць я павінен
Аэрафлот,
які прынёс
На крылах гэткую багіню
Нам,
грэшным,
на зямлю з нябёс.

*1976*

### *Навагодняя ноч у бальніцы*

Я дома Новы год сустрэць ня мог,
Хваробай прыкаваны да бальніцы.
Так сустракаць яго
ня дай вам бог,
Няхай і ў сне
вам гэта не прысніцца.

Бо той,
хто навагодняй ноччу тут,
Няпэўнай доляй у жыцці надзелены:
Ён ці прымае лекі ад пакут,
Ці ўжо жыхар на свеце ненадзейны.

І адпаведна стану
быў настрой
Самотнай установы кватарантаў...
А доктар
з санітаркай і сястрой
Паслухаць выйшлі
срэбны звон курантаў.

І покуль Новы год страчалі там
Яны,
падняўшы келіхі са звонам,
Па калідоры ўсім
на іх пастах
Званілі без упынку тэлефоны.

Я клікаў тых,
хто можа сам хадзіць,
І нёс ляжачым віншаванняў
словы...
Як хлапчанё трымае змея ніць,
Трымаў я провад сувязі
жыццёвай.

Каб на той свет
мы не зрабілі крос,
А ў новы год жыцця
пайшлі з палатаў,
Дзяжурны ўрач
прыйшоў,
як дзед-мароз,
З мядсёстрамі –
снягуркамі ў халатах.

*1977*



***Мікола Аўрамчык, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч. 1978 год. Здымак узяты з кніжкі “Анкета”.***

# СЦВЯРДЖЭННЕ ВОЛІ

**У красавіку 2008 году Язэп Палубятка прапанаваў Лявону Вашку адказаць на пытанні для газеты "Літаратурная Беларусь". Адказы былі дасланыя па эляктроннай пошце, а неўзабаве ў нумары газеты за 25 красавіка 2008 году пад рубрыкаю "Даслоўна" зьявілася інтэрвію "Творчасць ёсць сцвярджэнне волі". Тым ня менш, адказы былі надрукаваныя даслоўна адно напалову – прыкладна, пяцьдзесят працэнтаў дасланага тэксту "Літаратурная Беларусь" не апублікавала. Дадзеная публікацыя – поўная версія інтэрвію. Знішчаны тэкст пазначаны сімвалам "нажніцы":** **.**

**_Даслоўна_**

## "ТВОРчАСЦЬ ёСЦЬ СЦВяРДЖЭННЕ ВОЛЈ"

**Даведка "Ь": Лявон Вашко – беларускі празаік, драматург, літаратуразнаўца. Выдаў кніжкі "Еўрапейскія гісторыі", "Паэты-цары", "Гістарызацыя свядомасці", "Маленькі сшытак" (першы і другі выпускі). Выпускае самавыдавецкі літаратурны агляд "Дзеячас". П'еса "Сэкс па перапісцы" ставілася ў тэатрах Беларусі. Лаўрэат літаратурнае прэміі "Гліняны Вялес". Жыве ў горадзе Масты Гарадзенскае вобласці.**

***– Напачатку задам пытанне пра асобу Лявона Вашко. Расшыфруй, як кажуць спецыялісты-кадыроўшчыкі, "хто", "што", "дзе" і "як"?***

– Я нарадзіўся ў Гародні. Калі мне споўнілася сямнаццаць гадоў, адправіў мяне бацька вучыцца на журфак Беларускага Дзяржаўнага Універсітэту

 імя Уладзіміра Ілліча Леніна.

Атмасфера на журфаку панавала творчая, незвычайная...



*Партрэт студэнта журфаку. Менск, 1980 год. На вучнёўскім здымку бачная рэдактарская заўвага Гяоргія Захаравіча Бегуна.*

 Таццяна Дзмітрыеўна Арлова вадзіла нас па тэатрах на спяктаклі, а Ефрасіння Леанідаўна Бондарава арганізоўвала кінапаказы цудоўных фільмаў, дзе, здаралася, прысутнічалі й сцэны эротыкі, якая а той пары была паўсюдна ў гане. Успамінаецца наш дэкан Рыгор Васільевіч Булацкі – асоба легяндарная, ветэран, баявы лётчык, – успамінаюцца намеснік дэкана Іван Іванавіч Сачанка, які чытаў нам курс па замежнай журналістыцы, і прафесар Аркадзь Ёсіпавіч Наркевіч ды яго лекцыі па беларускай мове, і наш куратар Мікола Рыгоравіч Каваленка, які вёў па мове практычныя. Помніцца фоталабараторыя Гяоргія Захаравіча Бегуна, пытанні тэорыі й практыкі журналістыкі ў выкладанні Барыса Васільевіча Стральцова, Аляксандра Канстанцінавіча Свораба, Анатоля Вікенцьевіча Балаша, заняткі па радыёжурналістыцы з Яўгенам Рыгоравічам Радкевічам...

Хачу ад'значыць, што ўвесь выкладчыцкі калектыў журфаку

зрабіў усё немагчымае, каб увесці мяне ў прафесію журналіста, і я шчыра ўдзячны ім; зрэшты, як і свайму бацьку. Апрача незабыўных хвілінаў бурлівага сталічнага жыцця і дыплома журналіста, якія даў мне журфак, я яшчэ атрымаў спецыяльнасць камандзіра мотастралковага ўзводу і званне лейтынанта запасу, бо ў БДУ існавала вайсковая кафедра, – такім чынам, вучоба сталася мне, як пішуць цяпер на пакетыках кавы, тры ў адным.

*Абарона Менску. Лістапад 1982 году.*



Ня крыўдна і на гады карэспандэнцкае працы.



Пачынаў я працаваць у мастоўскай "Зары над Нёманам", дзе рэдактарам быў Валянцін Давыдавіч Вялічка: мяне прынялі ў штат на пасаду карэспандэнта сельгасаддзела, а ўжо цераз які тыдзень адзінагалосна абралі старшынёй пярвічнай арганізацыі Таварыства барацьбы за цвярозасць.

Цікава было паўсюль – і ў раёнцы, і ў абласной прэсе, і ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.



У сваёй журналісцкай працы мне даводзілася пісаць матэрыялы на розныя тэмы, сутыкацца з рознымі жыццёвымі сітуацыямі, размаўляць з рознымі па прафесіі людзьмі, сярод якіх былі й леснікі, і калгаснікі, і міліцыянеры, і ўрачы, і спартсмены, і паэты, і акадэмікі... Магчыма, каб ня гэтыя сустрэчы, да шмат якіх зразумелых мне сёння рэчаў я быў бы сляпы.

Занятак журналістыкаю прыадкрывае пакрыёмыя, незаўважныя, а часам проста недаступныя ў звычайным жыцці скрані чалавека ці грамадскае зьявы.



Тым ня меньш праблема прафесіі ў тым, што пры падрыхтоўцы матэрыялу журналіст часцяком мусіць карыстацца шчырасцю чалавека не ў ягоных мэтах – і ў гэты момант паўстаюць шматлікія пытанні, маральна-этычныя, псіхалагічныя, філасофскія... Даводзіцца



***Журналісты газеты "Зара над Нёманам" (злева направа) Мікалай Іванавіч Павядайка, Станіслаў Рышардавіч Звяровіч, Валянцін Давыдавіч Вялічка, Канстанцін Міхайлавіч Прусак каля будынку рэдакцыі. Масты, 1985 год.***



прымаць рашэнні, рабіць выбар, і гэта можа быць шляхам як удасканалення, гэтак і дэградацыі...

Да таго ж прыходзіць пара, калі журналістыка пачынае замінаць мастацкай творчасці. Праца журналіста выпустошвае творчасць, бо ўсяго часу трэба "гнаць радкі" і "даваць план". "Механізмы" мастацкае творчасці мне бачацца ў адваротным, у напаўненні творчага воплеску праз нявыказанасць: умоўна кажучы, узнікненне мастацкага твору можна параўнаць з ядзернай ланцуговай рэакцыяй – для яе пачатку патрэбная крытычная маса. Прынамсі ў мяне не атрымліваецца паўнавартасна сумяшчаць журналістыку і літаратуру, таму я зрабіў выбар на карысць літаратуры.



Журналістыкай займаюся непрафесійна, прыхапам, каб форму ня страціць: вось "Дзеячас" выпускаю... Было, рабіў свой сайт.

Ну, а такія прафесійныя якасці, як неабыякавасць, уважлівасць, дапытлівасць, імкненне зразумець незнаёмага табе чалавека і чужыя праблемы, ня лішнія і ў літаратурнай працы.


ДЗЕЯЧАС
УЧОРА, СЁННЯ І ЗАЎТРА
ДЗЕЯЧАС
ДЗЕЯЧАС
http://llavon.virtualave.net

*Літаратурны агляд "Дзеячас" выдаецца з 2000 году. У ім друкуюцца звесткі з літаратурнага жыцця, публікуюцца мастацкія творы і крытыка.*

***– Як узнікла ідэя выдання "Дзеячасу"? Чаму?***

– Думаю, з прычыны той самай нявыказанасці: магчымасці публікацыі ў мяне былі абмежаваныя, літаратурную крытыку мае несмяротныя даробкі ня забаўлялі, літаратурных функцыянераў мая сціплая постаць раздражняла... Вось і надумаўся выдаваць літаратурны агляд, у якім можна было б прапагандаваць сваю дзейнасць, выказваць сваё стаўленне да розных падзеяў у літаратуры і грамадскім жыцці... Увогуле, ідэя выдання прыйшла выпадкова, у часе друку "Маленькага сшытку" у Гарадзенскай "Ратушы", якую ачольваў Аляксандр Мілінкевіч.



Я падсабляў друкару Ігару Лысееву рабіць маю кніжку. У перапынках нашае працы мы друкавалі рэгіянальную самавыдавецкую прэсу з Гарадзеншчыны. Гэтыя самапальныя газеты і прабудзілі грэх. Прапанаваў ідэю Аляксандру Мілінкевічу, той яе падтрымаў.

Ад "Маленькага сшытку" засталася рэшта паперы, яна і пайшла на "Дзеячасы". Трэба сказаць, што паўсюдна, дзе друкаваўся "Дзеячас" – і ў Гародні, і ў Менску, і ў Баранавічах, і ў Лідзе, і ў Паставах, і ў Мастох – я сустракаў разуменне і шчырую падтрымку. Без гэтага творчага ўдзелу беларусаў у розных кутках Бацькаўшчыны, без зычлівай і бескарыслівай дапамогі часам нават незнаёмых людзей "Дзеячас" не адбыўся б.



Ты сам гэта добра ведаеш, паколькі спрычыніўся да выпуску ці ня кожнага нумару.

***– Калегі па пяру сцвярджаюць, што ты як ніхто іншы сёння на Беларусі адпавядаеш эпітэту вольны творца. Што такое вольны творца ў тваім разуменні? Якія станоўчыя і адмоўныя бакі гэткага ладу жыцця?***

– Мяркую, у панятку вольны творца ёсць пэўнае ўнутранае пярэчанне. Творчасць ёсць сцвярджэнне волі. Іначай кажучы, творца ня можа быць нявольным, і калі ён нявольны – то гэта ўжо ня творца. Іншая справа, цверджанне волі можа адбывацца ва ўмовах несвабоды, якая сёння адчувальная ў Беларусі. Тут ужо кожны выбірае тое, што выбірае. Мне бліжэй уласная незалежнасць, якая дае пэўныя выгоды: я сам размяркоўваю час, самастойна стаўлю і вырашаю творчыя задачы, свабодна выказваю свае думкі й публікую тое, што лічу вартым і патрэбным. Гэтага наўрад бы я меў у заангажаваных літаратурных структурах, дзе шмат высілкаў траціцца на кампрамісы, прыстасоўванні, дагаджэнні, кар’еру і заработкі... Трэба мець вялікі запас трываласці й быць вельмі мужным чалавекам, каб творча здзяйсняцца ў тых умовах. А дзе гэтых трываласці й мужнасці нам набрацца?



Ёсць і этычны аспект у дзяльбе літаратурнага кабана. У новым выпуску “Дзеячасу” надрукаваная мініятура Галы Гары “У краіне таталітарызму” – у гэтай краіне кожны жыве за кошт кагосьці, і ў канцы твору аўтарка ставіць пытанне: “Каго ж я заб’ю, калі буду жыць?” Дык і з дзяльбою свіное тушы тое самае: няхай сабе адшчыкну я ад літкабанчыка кавалачак маманцяціны, і – значыць, нехта іншы пяройдзе на храшчы бяз хрэну, а хтось з храшчоў бяз хрэну сядзе на хрэн бяз солі... Зразумела, ганарар і шырокія магчымасці ўзаемадзеяння з чытачом – вялікі плюс літаратурнае свінагадоўлі. І вялікі мінус літаратурнае самастойнасці ў пакручастых сцежках да чытача і ў тым, што трэба самому аплочваць выдаткі на друк твораў ды расходныя матэрыялы. Аднак, гэта так званыя цяжкасці росту грамадства: у свабодным грамадстве вышэйзгаданыя мітрэнгі хутчэй за ўсё зробяцца архаікаю, а сённяшнія заганы незалежнага жыцця стануцца дадатнасцямі.

Не лічу, што мая творчасць адбываецца ў нейкіх асаблівых умовах – пераважная большасць беларускіх пісьменнікаў сёння працуе ў падобным становішчы. Дастаткова разгарнуць “Дзеячас” – там вельмі шмат акурат пра нашую вольную літаратуру і асобаў, якія самааддана вытвараюць новы час



*Алесь Мікалаевіч Белакоз на сядзібе паэта Міхася Явара. Вёска Мінявічы Мастоўскага раёну, дваццаць дзявятага чэрвеня 2003 году.*



*Алесь Гярасімавіч Масарэнка з маладой паэткаю Кацярынай Чарнушэвіч у часе літаратурнае кансультацыі. Менск, Саюз пісьменнікаў, 27 снежня 2004 году.*

Сёлета дванаццатага красавіка Алесь Гярасімавіч Масарэнка ад‘значыў свой сямідзесяцігадовы юбілей. “Дзеячас” віншуе юбіляра, жадае яму моцнага здароўя і новых творчых здабыткаў. У гэтым нумары “Дзеячасу” на старонцы 21 друкуецца падборка вершаў з паэтычнай кніжкі Алеся Масарэнкі “Рэха гіпербалы”.






*Свой зборнік вершаў “Рэха гіпербалы” і выпускі альманаху “Панядзелак”Алесь Масарэнка выдаў прыватным чынам.*

Беларусі. Вось, напрыклад, Алесь Мікалаевіч Белакоз – вельмі часта ён займаў прынцыповую, невыгодную асабіста для сябе пазіцыю дзеля сцвярджэння беларускае волі, ствараючы Літаратурна-этнаграфічны музей у Гудзевічах. Ці Алесь Гярасімавіч Масарэнка, цудоўны празаік і паэт, руплівы літаратурны педагог – на старонках “Дзеячасу” апавядаецца пра альманах “Панядзелак”, які выходзіць дзякуючы ягоным асабістым высілкам, пра ягоны зборнік шчырай і мудрай паэзіі “Рэха гіпербалы”, які ён выдаў уласным коштам. А можна пачытаць пра кніжку Платона Крэня “Бывай, Ярашоўка!”, якую выдала за асабістыя сродкі ягоная дачка Ірына Платонаўна Крэнь: зьяднаныя беларускай творчасцю лёсы дачкі й бацькі – яскравы прыклад цверджання волі насуперак жорсткім, знішчальным умовам, праз якія ім даводзілася прайсці.



Як прыклад творчае самаадданасці прыгадаю і паэтычную кніжку Ілоны Сцяцко “Нябёсныя карункі” – уражлівыя астральныя вершы напоўненыя бяздоннымі філасофскімі вобразамі паэтка выпусціла за свае грошы. Дасціпны гумарыст і чулы лірык Янусь Малец падаўся з рэдакцыі дзяржаўнага выдання ў звычайныя рабочыя: у вольны час піша ды сам аплочвае выхад сваех кніжкаў. Адмовіўся ад кар’еры на карысць волі і паэт Васіль Гадулька – усё жыццё ён прарабіў у калгасе пастухом, ствараючы між працаю пранікнёныя вершы. У “Дзеячасе” прыгадваецца Сяргей Астравец – вось у мяне на стале ляжыць, чакаючы анатацыі, адная



з ягоных выдадзеных самастойна кніжкаў самабытнае гарадзенскае прозы “Кактэйль Молатава”. Зборнік незвычайных вершаў “Мост” Цемрыка Велета – таксама плён уласнае ініцыятывы. Я тут цытаваў Галу Гару – ейная кніжка “Спрабую хадзіць” паўстала праз дбанне Алеся Аркуша, а кніжка Сяргея Чыгрына “Пакліканыя на родны парог” – праз дбанне Юрыя Булыгі. Шмат сілаў беларускаму самадруку аддаў выдатны публіцыст Антон Лабовіч, які ў мінулым годзе пайшоў з жыцця. Незалежнасць, прыватная ініцыятыва – аснова кнігавыду і Ўладзіміра Арлова, і Таццяны Будовіч, і Юрыя Гуменюка, і Андрэя Клімава, і Валерыя Скакуна, і Эрнэста Ялугіна... Непакора, сумленнасць, вольнасць – вызначальныя рысы творчасці Рыгора Барадуліна, Гянадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Вольгі Іпатавай, Алега Лойкі...

Цверджанне свабоды слова, творчае процістаянне аскаціненню беларусаў ва ўмовах духоўнае акупацыі, – прынцыпы нашых незалежных выданняў “Дзеяслоў”, “Літаратурная Беларусь”, “Наша слова”, “Новы час”...



Ня буду пераказваць увесь змест новага выпуску “Дзеячасу”, скажу толькі, што вольных, сумленных, шчырых літаратараў на Беларусі вельмі шмат, іх незраўнана болей, чым тых, хто спрабуе прыстасавацца да няволі або цынічна выкарыстоўвае сітуацыю дзеля ўласных карыслівых мэтаў.

***– Ты пішаш прозу, драматургію, выступаеш з вершамі, з творамі публіцыстыкі, літаратурнае крытыкі, займаешся выдавецкай справай... Ці не перашкаджае гэткая разнастайнасць творчасці? А мо, наадварот, дае дадатковыя магчымасці раскрыць сябе?***

– Жыццё шматстайнае, і, бывае, паўстае жаданне выказацца з той ці іншай нагоды. Вядома ж, вузкія літаратуразнаўчыя праблемы можна перадаць і праз п’есу, але дзейснасць гэткае перадачы будзе мінімальнай: мяркую, у лепшым выпадку глядач засне нават пры самых неверагодных высілках рэжысэра так і не зразумеўшы навуковае канцэпцыі аўтара, але пры гэтым не выключаю і горшыя варыянты правалу... Вечнасць існуе заўсёды і паўсюль: драматургія, напрыклад, імкнецца спасцігнуць сталыя формы вечнасці, а публіцыстыка шукае вечнасць у імклівых, зменлівых праявах жыцця. Таму праца ў розных родах і відах літаратуры, і выкарыстанне match рознае жанравае палітры – гэта ўсё ж ўзаемадапаўненне, а не ўзаемапярэчанне. Увогуле, псіхалагічна мне бліжэй проза; унутрана я лічу сябе празаікам – усё астатняе атрымліваецца ў мяне на сумежжы з прозаю.




***Астральныя вершы Ілоны Сцяцко – задуменная, філасофская паэзія. Доўгага часу творы праляжалі ў дзяржаўным выдавецтве, але так і не былі там выдадзеныя. Выданне паэтка аплаціла ўласнымі грашыма. Кніжка выйшла ў маскоўскім выдавецтве “Эксмо” а 2006 годзе зборам у сто асобнікаў. У дзявятым выпуску “Дзеячасу” апавядаецца пра кніжку Ілоны Сцяцко “Нябёсныя карункі”, друкуецца падборка вершаў. У другім выпуску “Маленькага сшытку Лявона Вашка” надрукаваная рацэнзія на першацветаўскую “кніжку ў нумары” Ілоны Сцяцко “Кветка язміну”, вершы якой увайшлі ў “Нябёсныя карункі”.***



***– Твае вершы я назваў бы “суровай лірыкай” нашага***



***жыцця... Паэзія – часовае захапленне, ці гэта – надоўга?***

– Заракацца ня буду, як і абяцаць... Скажу толькі, што колькасны паказнік мяне не турбуе: напішыцца штось, дык напішыцца, але знарок змушаць сябе ня буду. Вершаваная сатыра, што надрукаваная ў “Дзеячасе”, зьявілася між іншым... Гэта проста жарт, сцёб. Вершы напісаліся на перэфірыі мае творчасці, у вольную хвіліну, дый у літаратурным сэнсе – гэта таксама перэферыя. Але гэта ня значыць, што закранутыя ў вершах праблемы – другасныя. Проста гэта той выпадак, калі знарочысты абсурд дазваляе скінуць з рэчаіснасці хлуслівую маску, а стылістыка бурлеску ды травестыі – назваць рэчы сваімі імёнамі.




***Цудоўная, праніклівая паэзія Галы Гары, на жаль, ня мае шырокага розгаласу.***

***Адзіную ейную кніжку “Спрабую хадзіць” выдаў Алесь Аркуш у Полацку а 2002 годзе. Кніжка выйшла ў шэрагу “Бiблятэка часопіса “Калосьсе” зборам у 100 асобнікаў. У ёй надрукаваная невялікая частка з напісанага паэткаю. У адзінаццатым нумары “Дзеячасу” кніжка згадваецца ў анатацыі “Лёсавершы”. У дванаццатым выпуску “Дзеячасу” надрукаваная падборка вершаў і мініятураў Галы Гары “Эзопава мужнасць”.***

***– Ты шмат эксперэмянтуеш з моваю. Што для цябе эксперымент?***

– Праява творчасці. Цверджанне мастацкае волі. Беларуская мова мае аграмадны творчы зарад – то сусвет жывых вобразаў і яшчэ невядомых адкрыццяў... Жыццё ў гэтым тайнічым свеце дорыць асаблівае прадчуванне часапрасторы, напоўненай мудрасцю старажытных і яшчэ не народжаных народаў, лёсамі й досведам раскіданых па часе і космасе людзей, іх творчымі воляй і здзяйсненнямі. Мэта маех эксперыментаў у пошуку тых жывінных вобразаў, у збуджэнні “прамоўленых” словаў й імкненні праз збуджаныя словы выказаць новые сэнсы; якраз у гэтым мне бачыцца прызначэнне навацыі ў літаратуры – у пошуку сувязі між адсутнай фізічна, знерэчаісненай даўніною і яшчэ не ўрэчаісненай будучыняю, ці то ў пошуку традыцыі. Не скажу, што гэта лёгкі шлях – тут шмат і вонкавых перашкодаў, і ўнутранага няўладдзя. Напрыклад, эксперыменты з правапісам, жаданне знайсці строгія формы перадачы словаў, адно патанаюць у эклектыцы – таму ці не ўсе мае выданні розняцца між сябе правапіснымі ўмонасцямі...



Дадатнасць эксперыменту, калі ён адбываецца як прыватная творчая ініцыятыва – у плёне, які вынікае як з поспеху, так і з няўдачы. Бадай што, гэта галоўнае адрозненне ад таго становішча, у якім пытанне правапісу робіцца часткаю палітычных тэхналогіяў – гэткі палітэксперымент незалежна ад выніку прыносіць вялікую шкоду, паколькі ён пазбаўлены творчасці: пытанні літаратуры ды мовы выкарыстаныя ў ім дзеля зусім іншых, ня творчых, ня моўных і не літаратурных, а палітычных мэтаў. Цынізм сітуацыі, праз якую давялося прайсці беларускім літаратуры і грамадству ў нашай найноўшай гісторыі, у тым, што беларушчыну паспрабавалі выкарыстаць як інструмант барацьбы супраць самой жа беларушчыны – усе мы на пэўны час зрабіліся ўдзельнікамі нейкіх вульгарных схемаў і пачварных маніпуляцыяў нашых паліттэхнолагаў,



закладнікамі становішча, пры якім грамадства, культура і асобы апынуліся ў ролі паддоследных істотаў у сацыяльнае лабараторыі палітычных маннякаў, а беларуская мова сталася арэнаю ўнутранае барацьбы, але ня тым, чым яна павінна быць – умоваю творчага яднання нацыі.

Калі адкінуць палітычны аспект моўнага пытання, дык правапіс прапанаваны некалі Браніславам Тарашкевічам, вядома ж, патрабуе развіцця. Гэта некалі прызнаваў і сам Браніслаў Тарашкевіч. Я бы ўсё ж адмовіўся ад паліттэхналагічных прыёмаў драблення і супрацьпастаўлення ў разглядзе арфаграфічнага пытання і зірнуў бы на гісторыю беларускага правапісу як на шлях станаўлення, – пасутнасці ж, так званая “наркамаўка” ўсё роўна застаецца так званай “тарашкевіцай”; рэфармаваны правапіс аніяк не адмаўляе значнасць зробленага Браніславам Тарашкевічам, наадварот ідзе ад яго як ад асновы, першапачатку і зьяўляецца ягоным лагічным працягам, ня гледзячы на вядомыя негатыўныя аспекты рэформаў і той драматычны фон, на якім пэўная частка з гэтых рэформаў адбылася. Але ці можа трагізм вызначаць навуковую вартасць? Доследы, што здзяйснялі фашысты над людзьмі ў канцэнтрацыйных лагярох, агульнапрызнаныя бесчалавечнымі, аднак немагчыма абвергнуць значнасці здабытае навуковае інфармацыі ў часе тых эксперыментаў, на падставе якой зробленыя шматлікія адкрыцці й практычныя ўкараненні. Дадатны бок беларускіх рэформаў мне бачыцца ў натуральных спробах вылучыць і зразумець марфалагічныя праблемы мовы. Гэта разняволіла слова, прыадкрыла ягоныя глыбіні. Правапіс жа Браніслава Тарашкевіча большы акцэнт рабіў на фанетычных прынцыпах перадачы слова, фактычна транскрыпуючы яго, – тады гэта было вельмі важна, паколькі стаяла задача з дакладнасцю перадаць гучанне мовы, якая доўгага часу жыла ў эпічных формах.

Ужыванне дарэформеннага правапісу ў беларускай эміграцыйнай літаратуры зразумелае: кансервацыя – адзін са спосабаў выжывання ў чужародным асяродку. Разам з тым беларускі шлях – гэта шлях прагрэсу.

Сёння пытанні моватворчасці, пашырэння лексічнага запасу вельмі надзённыя, і зварот да словаглыбіні ня будзе лішнім. Падаецца, правапіс, які арыентуецца на фанетычныя прынцыпы перадачы слова, мінімальна дапаможа сённяшнім моўным працэсам. Прыспела пара дакрануцца да псіхічнае структуры слова, зазірнуць у ягоную душу, і шырокае выкарыстанне марфалагічных прынцыпаў словаўтварэння і слованапісання




***Кніжка Сяргея Астраўца “Цэнзарскія нажніцы” праляжала ў дзяржаўным выдавецтве пяць гадоў, але так і не была там выдадзеная. За гэты час аўтар напісаў яшчэ шэраг твораў. Усё напісанае ён выдаў самастойна ў Гародні аб 2000 годзе. Кніжка зробленая ў Беластоку ў выдавецтве “SETPro Aleksander Maksymiuk”. На 545 старонках надрукаваныя 62 апавяданні. “Цэнзарскія нажніцы” ад‘значаныя літаратурнай прэміяй “Гліняны Вялес”. У другім выпуску “Маленькага сшытку Лявона Вашка” змешчаная рацэнзія кніжкі.***

павінна паспрыяць творчасці, абуджэнню мовы, вытварэнню новых сэнсаў...

***– “Дзеячас” сведчыць пра твае шматлікія стасункі са знакамітымі асобамі, удзел у розных падзеях літаратурнага жыцця. Распавядзі з гэтага аб чым-небудзь цікавым, што ўразіла і запомнілася...***

– Кожны з нас бачыць сваю праўду, і ў месцы накладання гэтых праўдаў адная на адную нараджаецца абсурд і ўзнікаюць розныя кур’ёзы. Неяк увечары мы разам з Алесем Масарэнкам завіталіся на сядзібу да Івана Шамякіна ў Ждановічах. Здарылася гэта ўвосені 1996 году. Пасля вячэры мы з Іванам Пятровічам абмяняліся кніжкамі, я падарыў яму сваех “Паэтаў-цароў”, якія зьявіліся вясною таго году, а ён падпісаў мне сваю кніжку з аповесцямі “Сатанінскі тур”. Назаўтра я вырашыў наведацца ў царкву ў Заслаўі. Прыехаў, а там – пажарнікі. Ноччу царкву хтосьці падпаліў. Схадзіў на пажарышча, паспачуваў бацюшку і ўжо збіраўся зьязджаць, як да мяне падышоў участковы, капітан міліцыі – прозвішча не ўзгадаю; мне здалося, што звечару ён добра ўзяў чарку – магчыма, не разлічваў, што яго падымуць з прычыны над’звычайнага здарэння, і выгляд у яго быў несамавіты. Капітана насцярожыла тое, што машына з гарадзенскімі нумарамі. Ён запытаўся ў мяне дакументы. Рэч у тым, што я тады ездзіў на “жыгульку” бацькі: бацька памёр, а машыну я на сябе не аформіў. Да таго якраз у той жа вечар, пасля гасцінаў у Івана Пятровіча, у мяне забралі правы, – на той час існаваў загад забіраць правы ў тых, хто перавысіў хуткасць на дваццаць кіламетраў, і я едучы ўвечары па кальцавой каля Курапатаў не надаў увагі, што знаходжуся яшчэ ў межах гораду... Я растлумачыў капітану акалічнасці. Ён прапанаваў праехаць з




***Кніжкі Цемрыка Велета “Мост” (Менск, 2007), Юрыя Гуменюка “Вуліца тыгровых архідэяў” (Беласток, 2003), Вольгі Іпатавай “Задарожжа” (Менск, 2005), Антона Лабовіча “Мудры настаўнік Алесь Белакоз” (Гародня, 2006), Януся Мальца “Намінальны людзель” (Менск, 2005), Валерыя Скакуна “Набытак” (Менск, 2006) нароўніцу са шмат іншымі беларускімі выданнямі яднае агульная асаблівасць – яны паўсталі не ў дзяржаўнай установе, а з уласнае ініцыятывы. У “Дзеячасе” друкаваліся анатацыі гэтых кніжкаў, а таксама асобныя творы з іх.***



ім у аддзяленне міліцыі. Па дарозе капітан палез у бардачок, дзе ў мяне было багата ўсялякае літаратуры, на што я запытаўся “Гэта вобыск?” і атрымаў дасціпны адказ “Візуальны агляд”. У аддзяленні мы прайшлі ў кабінет з закратаваным акном і з прыкручанай нітамі да падлогі табурэткай. Пачаўся допыт. Я адказваў на пытанні. Потым капітан папрасіў раздзецца да пояса – шукаў татуіроўкі. Нарэшце ён запытаўся пра кніжку Івана Пятровіча. Кніжку гэтую я паклаў за сядзеннем пад задняе шкло. Мастак, што афармляў вокладку, вельмі трапна злавіў вобраз, і надпіс на кніжцы “Сатанінскі тур” нейкім чынам, формаю шрыфтоў, перагукаўся з надпісам “Смерць хрысціянам!”, што пакінулі на заслаўскай царкве падпальнікі – ва ўсялякім разе пільнае вока і кемлівы розум участковага тут жа ўлавілі падабенства. Пасля таго, як я растлумачыў, што аўтар кніжкі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін і што кніжка, а разам з ёю і я ня маюць ніякага дачынення да сатанізму і пагатоў да падпалу святыні, ды пасля таго, як участковы самаруч пагартаў старонкі і пабачыў аўтограф пісьменніка, запасокі з мяне былі знятыя. Аднак пытанне кіраваннем машынаю без правоў і без даверанасці заставалася, і каб яго замірыць, я прапанаваў падпісаць для аддзялення міліцыі сваю кніжку “Паэты-цары”. Капітан папрасіў мяне пачакаць, – кудысьці хадзіў раіцца, а вярнуўшыся сказаў “Падпісвайце”. Я падпісаў, і мяне адпусцілі з Богам, – мастацкая праўда ўсё ж перамагла.




***Кніжка Івана Шамякіна “Сатанінскі тур” пабачыла свет у Менскім выдавецтве “Мастацкая літаратура” аб 1995 годзе зборам у 6 000 асобнікаў. Мастак Міхаіл Будавей. У кніжку ўвайшлі пяць аповесцяў. Гяроі мастацкіх твораў – прадстаўнікі беларускае інтэлягенцыі, якія шукаюць свой шлях а часе заняпаду маральных каштоўнасцяў у грамадстве. Анатацыя кніжкі апублікаваная ў восьмым нумары “Дзеячасу”. На шмуцтытуле падоранага Лявону Вашку выдання Іван Пятровіч пакінуў зычлівы надпіс: “Лявону Вашко, маладому празаіку, кніга якога зрабіла на мяне моцнае ўражанне. Так трымаць! Здароўя і шчасця!”.***

***– Ведаю, ты заўзяты гуляка пешшу. Яшчэ з павагаю стаўлюся да твайго захаплення веласіпедам – сам такі са студэнцтва... А яхта – гэта часова, ці таксама назаўсёды? Увогуле, ты як пісьменнік падчас такіх вандровак адпачываеш ці працуеш творча?***

– Мабыць, схематычна можна правесці мяжу між працаю і адпачынкам, але гэта ўсё ўмоўнасці. Мне, бывае, ноччу прысніцца ўражлівы вобраз, дык я яго наранку ў кампутар натую: атрымліваецца, што сплю і – працую. Увогуле, работы хапае, але з іншага боку яно як бы і не работа, а вольная справа – у нармальных людзей яна адбываецца пасля асноўнае працы... Таму хутчэй за ўсё гэта такі лад жыцця, як і пешыя падарожжы ў лес – творчае сутыкненне з часам. Дый ровар не надакучае з дзяцінства – швы і вывіхі адно ўпрыгожваюць байкера.

Яхта – гэта асобная паэма. Дзякуючы захапленню ветразем, я пазнаёміўся і вочна, і віртуальна з цікавымі творчымі асобамі – людзьмі шчырымі і адкрытымі, з пазітыўным мысленнем, самастойнымі поглядамі.

 Гэта і трэнеры з яхт-клубу ў Азёрах пад Гародняй, і ў



прыватнасці Дзмітры Дзягель, якія ахвотна дзяліліся са мною яхценным майстэрствам. Гэта і капітан яхты "Рэспубліка" Уладзімір Коржаль, які заўсёды дапаможа парадаю і справаю. Гэта майстры з Беларусі й розных куткоў свету, з якімі можна плённа абмеркаваць пытанні самабуду па электроннай пошце ці на інтэрнэт-форуме. Гэта наш махачкалінскі беларус, капітан Яўген Аляксандравіч Гваздзёў, на галінку якога я з цікавасцю заходжу на форуме часопіса "Кацяры і яхты", – чалавек дзівосны і мэтанакіраваны. Пасля вайны ён патрапіў у дзіцячы дом, а потым лёс закінуў яго з Беларусі ў Дагестан, на Каспій. Сваякоў у яго ў Беларусі не засталося, аднак ён здолеў захаваць самыя лепшыя пачуцці да Бацькаўшчыны. На невялічкіх яхтах, адную з якіх зрабіў проста на сваім балконе, ён двойчы абыйшоў свет, – і разам з сабою ў падарожжы ён браў беларускі сцяг. Цяпер Яўген Аляксандравіч у свае семдзесят пяць гадоў рыхтуецца да новай сусветнай вандроўкі на яхце класу "Мікра"– прычым падрыхтоўка ідзе хуткімі тэмпамі, і калі планы ня зменяцца, дык напачатку восені ён пачне сваё падарожжа...

Чым болей цікавішся яхтынгам, тым болей адкрываеш перад сабой невядомых раней даляглядаў – тут і пытанні геаграфіі паўстаюць, і метыяралогіі, і астраноміі, і фізікі, і медыцыны, і філасофіі, і сталярнае справы, і кулінарыі... З яхтаю сувязана шмат розных ведаў; напаўняючы імі жыццё, павышаеш якасць гэтага жыцця і ягоны ўзровень.



Гэта як аграмадная кілбасіна ў кошыку спажыўца ў шэсцісотым "марсадэсе". Шютка.

***– Што для цябе Мастоўшчына?***

– Гэта тое месца, куды хочацца вяртацца.

***Гутарыў ЯЗЭП ПАЛУБЯТКА.***

***кроніка***



**А**дзінаццатага лютага 2008 году Лявон Вашко разам з мастоўцамі Гяоргіем Барташам і Алесем Зарэмбюком наведаліся ў Магілеў на ўстаноўчы сход Руху "За свабоду", ініцыятарам якога выступае Аляксандар Мілінкевіч. На адваротным шляху заехалі таксама ў вёску Мокравічы Бялыніцкага раёну, на могілкі, дзе пахаваныя продкі Лявона Вашка, сярод якіх баба і дзед – Мархва Іванаўна і Ягор Сцяпанавіч Кавалёвы.

***На здымку: магілеўская сустрэча – на першым плане злева направа Аляксандар Мілінкевіч, Алесь Лагвінец, Алесь Зарэмбюк. Здымак з сайту Аляксандра Мілінкевіча (http://www.milinkevich.org).***

# РЭХА ГІПЕРБАЛЫ

**Некалькі вершаў Алеся Масарэнкі са зборніка “Рэха гіпербалы”.**

### *Прызнанне*

Я за пяро ня ўзяўся б, далібог,
і вудаў ганарарных не закідваў,
калі б ня быў мой бацька інвалідам
і не касіў адной рукой мурог.

Ня зведаў бы я сэнсу горкіх слоў,
калі б умела маці распісацца,
калі б на кірмашы замест рублёў
махляр ня даў ёй царскіх асігнацый...

Я за пяро ня ўзяўся б, далібог,
калі б на ўсё глядзець спакойна мог!

*1964*

***

І ўсё ж такі паэты – ёсць паэты:
жанчынам усміхаюцца часцей,
шчыруюць на пітво апошнія манеты
і пішуць найсучасныя санеты
вярлібрамі... А крытыка – пацей.

У акіяне думак хуткацечных
вяслуюць, не зважаючы на шторм...
І словам рушаць, нібыта карцеччу,
жахлівы страх у душах чалавечых,
і подласці выносяць прыгавор!

*17.01.1968*

### *Мінавіцы*

Мінавіцы – лясныя дарогі,
патайныя шляхі змагароў,
сведкі колішняе трывогі
і няроўных па сіле баёў...

Каліноўскі тарыў мінавіцы...
Мінавіцы Мінай тарыў –
і заўсёды для лютых чужынцаў
нечаканым грозьбішчам быў.

Мінавіцамі мудрасць хадзіла,
бальшакамі – няволі канвой...
Мінавіцы – вялікая сіла,
калі вораг ідзе вайной.

Беларусі зямля –
мінавіца мая!

*1971*

### *Пра сумленне*

Маё сумленне – не манета,
яно ў кішэні не звініць...
Я абыходжу прайдзісвета,
які хацеў яго купіць.

А ён з ухмылкаю ахвоча
руку насустрач падае –

**СКРОЗЬ СВЕТАЧАС**

***Вершы пішуцца з розных нагодаў – з прычыны знамянальнае падзеі, для газетнае публікацыі, дзеля ганарару ці славы... Творы, якія склалі кніжку Алеся Гярасімавіча Масарэнкі “Рэха гіпербалы”, пазбаўленыя меркантылізму. Прычына іхнага ўзнікнення – лірычнае хваляванне. Укнігаваныя вершы пісаліся на працягу чатырох дзесяцігоддзяў і выспявалі для публікацыі ў пісьменніцкай шухлядцы. Кніжка нагадвае паэтычны дзённік – літаратуру для самога сябе, у якую чытач проста запрошаны ў госці. Паэзія Алеся Масарэнкі – гэта філасофія жыцця, якая дзень за днём, год за годам і верш за вершам напоўніла кніжку “Рэха гіпербалы” мудрай праўдаю вечнае душы ў імклівасці навакольнага светачасу.***




***Зборнік вершаў Алеся Масарэнкі “Рэха гіпербалы” выдаваўся дзякуючы прыватным намаганням аўтара. За друк аўтар разлічыўся сваімі грашыма. Кніжка выйшла зборам у 200 асобнікаў з маскоўскага выдавецтва “Эксмо” аб 2006 годзе і была надрукаваная на Мажайскім паліграфічным камбінаце. Рэдактар Н. Ружыцкая, карэктар А. Голубева, вокладку аформіла Т. Мельнікава, вёрстку зрабіў Д. Андрэеў.***
***На шмуцтытуле падоранай Лявону Вашку кніжкі Алесь Гярасімавіч Масарэнка пакінуў надпіс: “Спадару Лявону Вашко – шчыра, на ўсё добрае!”***

сваё сумленне прадае,
ды брацьь яго ніхто ня хоча.

***1971***

***

**У** вёсцы ўсё складанае –
прасцей,
а ўсё звычайнае –
складаней...
Там на сваіх,
што ў горадзе,
дзяцей
глядзяць,
як на залечаныя раны.

***1988***

***

**У** зараў я лёсу поле
і засеяў камянямі...
А дзе воля – там і доля
Гнеўна звоніць кайданамі.

А дзе радасць – вецер свішча
і ваўкі снуюць гайнямі.
А дзе шчасце – там кладзішча
спеліць вечнасць пад крыжамі.

***16.01.2000***

***

**В** ыток узнёсласці
нязвычны –
бусліны па-над хатай клёкат
мне доўжыць мой настрой
лірычны:
жыву паэзіяй высокай.

На чысты аркуш –
друкаванкай! –
радкі кладуцца, быццам іх я
бяру гатовымі з буслянкі,
дзе трызніць вершамі бусліха.

***15.08.2000***

***

**У** вечнасці
шляхоў не існуе,
з таго і не знайсці яе вытокі.
Дыяпазон у вечнасці шырокі,
і справаздачаў вечнасць не дае.
І калі хто сплывае ў небыццё:
жывое ўсё –
часовасць, хуткацечнасць;
нам смерць яго ўспрыймаецца,
як вечнасць,
хоць і пражыў кароткае жыццё.

***11.04.2003***

***

***Мы – огонькі болота.***
***І. Бунін***

**З** бяднела вёска на дзяцей –
на немаўлячы плач і смех:
камусьці жыць стала прасцей,
бо не зважае ўжо на грэх –
дарэшты выпетрана ветрам
яго балотная душа...
У бездань падае шаша
З яе апошнім кіламетрам.

Мінулага пратуберанцы
пульсуюць крэсівам балот,
сярод якіх жыве народ,
а не якія там паганцы.
І адыходзіць той у рай,
хто мае продкаў абярог...
Здарожаны, у родны край
вяртаецца з выгнання Бог.

***26.04.2003***

***

**У** акаёме светлаценяў
я запушчу ў свой лёс нарог.
Чародкі думак-летуценняў
радкамі лягуць на аблог.

Пракаласуе буйна жытка,
душы збуцьвеюць асцюкі...
І Смерць – старая варажбітка –
Папросіць сэрца і рукі.

***20.05.2003***

### *Гарбун*

**Л** ёсу барозны на твары;
за спінай – звыродны глыж...
Жыў на зямлі, гаспадарыў,
гора свайго нёс крыж.

І вось – прыткнуўся на ўслоне,
Глядзіць спадылба на свет...
У якіх ён думак палоне,
гэты гарбаты дзед?

Зведаў жыцця вытокі,
Дачасна ў зямлю ня лёг...
Дзеду, зрабі два крокі –
Скінь сваю ношу ў быльнёг!

***27.05.2003***

***

**Х** ачу туды, дзе дабрыня жыве,
дзе ёсць усё, і дзе няма нядолі,
і васількі цвітуць у жытнім полі,
і жаўранак свіркоча ў сіняве.

Такой мясціны больш
нідзе няма –
яна ў маім дзяцінстве
палягае...
Але і сёння мне дапамагае
збаўляцца ад смяротнага ярма.

***27.05.2003***

### *Скруха і боль*

**Б** ы ўдары сэрца – лёт бацяна:
рытміка часу, логіка руху...

Ніткай, нібыта з верацяна,
сплывае за птушкаю скруха.

Слаўны бацяне – балот уладар,
скруху маю асадзі ў чмурэчу...
Боль свой на вырак я не аддам –
нават чужы не адпрэчу.

**28.05.2003**

***

**У** юначым парыве агністым
гарэла маё каханне...
Дымілася болем чыстым,
ірдзела барвовым раннем.

Гады шнурком жураўліным
плывуць у вякоў прадонне...
На дачы палю ў каміне
пачуццяў былых адонне.

Полымя квола б’ецца –
Ня гасне ў маім успаміне...
Дзе коратка, там і рвецца:
парванае – хутка гіне.

**1.06.2003**

***

**С**крыжалі памяці навечна –
сышлі ў падмуркі гарадоў.
Жыццёвай плыні хуткацечнай
не абагнаць маіх гадоў.

Лунае лунь, ручай булькоча,
гудзе чмялямі травастой...
Душа мая – у вырай хоча,
не прызнае ні ў чым застой.

І не забегчы мне самому
сабе наперад аніяк,
услаць каб загадзя саломай
свой шлях у сонме патырчак.

Мая душа мяне ўратуе –
не завядзе ў дрыгвяны лёх:
яна ўсё высачыць і ўчуе...
Душа мая – мой абярог.

**9.10.2003**

***Асенняе***

**Н**а паплаўцы ў тумане
белым
скубе атаву белы конь.
Па-над альхоўнікам
згалелым
світанку ярыцца агонь.

У небасіні зорак мройва
сыходзіць у надзённы час...
Жаўцее купінамі пойма,
дзе плыт на водмелі захрас.

Звініць напятай павуцінай
пасляначная цішыня.
Непатапляльнай брыганцінай
плыве над вёскай дабрыня.

**24.08.2004**

***

**А**дгукаюцца гулкім рэхам
галасы, што ў лясах жывуць.
Тут ня жарты чыесь, ня ўцеха –
дрэвы ўмерці нам не даюць.

Заблукаў у лясной цямрэчы
чалавека ўчарашні дзень,
і яму на дрыготкія плечы
лёг глыбокае ночы цень.

У адчаі душа галёкае,
непрыкаяная, крычыць...
Голас мой, не ляці далёка –
Мне бяз рэха спакойней жыць.

**12.12.05**



***Алесь Масарэнка на сваёй прынёманскай сядзібе. Induce Ператокі, дваццаць другога ліпеня 2003 году.***



*Н*а пачатку 2008 году на мастоўскую сядзібу Лявона Вашка завітаўся Язэп Палубятка. У лазні былі абмеркаваныя праблемы выдання літаратурнага агляду “Дзеячас”.

***На здымку: Язэп Палубятка ў лазне. Пачатак 2008 году, Масты.***

## *Твораспакметы*



*Улетку 2007 году Лявон Вашко, апынуўшыся ў Менску, завітаўся на офіс фірмы “Алві-торг”, дзе яму зычліва прапанавалі рэкламны буклет “Тэхналогіі будучыні ўжо сёння” з рэкламнымі ўкладкамі й прайс-аркушамі (“Технологии будущего уже сегодня” , на рускай мове. Прыводзяцца мадэлі сучаснага інструманту для мяталаапрацоўкі: вадародныя плазмарэзы, дугавыя зварачныя апараты інвертарнага тыпу, баўгаркі, расходныя матэрыялы, аксесуары… Паведамляецца адрас прыватнага вунітарнага прадпрыемства “Алві-торг”, дзе гэтае ўсё можна набыць: 220024, Менск, завулак Сцебянёва, 9а, тэл. (017) 201-90-39, 201-90-40, 201-90-41. тэл. маб.: (029) 307-09-25, 270-09-25, e-mail:alvi@svarka.by, www.svarka.by На фірме знаходзіцца стэнд, дзе можна папрацаваць з прапанаванымі ў прайсе мадэлямі. Падаюцца тэлефоны рэгіянальных прадстаўніцтваў: Бярэсце – (0162) 29-73-48, 29-83-87, Гародня – (0152) 56-11-01, 29-83-87.*

**Хэвіметалсталінізм.** Плазмарэзкі, баўгаркі і зварачнікі – беларускія косы XXI стагоддзя. Іх можна ня толькі пабачыць у касіянерскіх снох, але і прыдбаць на фірме “Алві-торг”.

---




*Дваццаць першага снежня 2007 году Лявон Вашко на менскай сядзібе Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны сустрэў Міхася Скоблу, які падарыў кніжку Рыгора Крушыны “Кантата самотных” (Рыгор Крушына. “Кантата самотных. Да стагоддзя паэта”. Вершы і паэмы. Кніжка выйшла з менскага выдавецтва “Кнігазбор” аб 2007 годзе зборам у 500 асобнікаў. Кніжка мае 308 старонкаў. Укладальнік Міхась Скобла. У кніжцы змешчаныя прадмова Анатоля Сідарэвіча, успаміны Ігара Казака і Янкі Запрудніка пра Рыгора Крушыну,*

*жыццяпіс паэта. Кніжка выдадзеная за сродкі сына Рыгора Крушыны Ігара Казака. Адказны за выпуск і карэктар Г. Вінярскі, рэдактар М. Скобла, набор Л. Вікторкі, вёрстка Л. Ваўчок. Друкарня ПУП "Ходр" ГА БелТІЗ.)*

**Векпаэзія.** Праз стагоддзе душэўнае самоты ў беларускую бясконцасць часу скіраваная паэзія Рыгора Крушыны, у якой лірычная пранікнёнасць спалучаная з публіцыстычным неспакоем, а навацыі з нацыянальнымі асновамі; "Паўстань, мой любы селянін! Паўстань супроць чужой улады! Паўстанне – сродак твой адзін, ты роднай Бацькаўшчыны сын, сваіх ня згубіш пуцявін, дык не шукай чужой спагады! За зброю! Бі! Хай гінуць гады! Паўстань! Ня бойся і ня трусь! Ратуйма нашу Беларусь!"

---

*Дзевятнаццатага студзеня 2008 году Лявон Вашко ў Гародні завітаўся на кватэру да Сяргея Астраўца, дзе гаспадар падарыў яму сваю кніжку "Кактэйль Молатава" з дарчаподпісам. (Сяргей Астравец. "Кактэйль Молатава. Дзевятнаццаць апавяданняў, якія напісаныя ў памежным горадзе, расцятым Ракой Часу". Кніжка выдадзеная ў Гародні аб 2006 годзе. Мае 152 старонкі. Самавыдавецтва. Надрукаваная дзякуючы Беларускаму Пэн-цэнтру.)*




**Нёмнабомба.** Рошчына з нёманскае часаплыні й гарадзенскіх вякоў нарадзіла выбуховую сумесь беларускага духасупраціву ў беспадобнай кніжцы Сяргея Астраўца "Кактэйль Молатава", напісанай між рок-н-ролам і кубкам кавы.

---

*Сёмага чэрвеня 2008 году Лявон Вашко, апынуўшыся ў Гародні, завітаўся на кватэру да Сяргея Астраўца, дзе зычлівы гаспадар падарыў некалькі нумароў газеты "Наша ніва" (№ 17 (567) за 8 траўня 2008 году, № 18 (568) за 15 траўня 2008 , № 19 (569) за 22 траўня 2008 году, № 20 (570) за 29 траўня 2008 году). ("Наша ніва", першая беларуская газета. Заснаваная ў лістападзе 1906 году. Адноўленая ў траўні 1991 году. Заснавальнік мясцовы фонд выдання газеты "Наша ніва". Выдавец – прыватнае прадпрыемства "Суродзічы". Выходзіць штотыднёва ў чацвер. Выдаецца 48 разоў на год. Збор 2239 асобнікаў. Сакратар рэдакцыі Наста Бакшанская. Шэф-рэдактар Андрэй Дынько. Галоўны рэдактар Андрэй Скурко. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адрас для допісаў 220050, Менск, а/с 537. Рэдакцыйны адрас: Менск, праспект Ракасоўскага, 102-71. Тэл./факс 8 (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29. E-mail: nn@nn.by . On-line: www. nn.by . Разліковы рахунак 3012206280014 у МГДААТ "Белінвестбанк", Менск, код 764.)*




**Міжлопух.** Зернейкам пры зернейку кладзецца ў пешчугу пустачасу і каласком да каласка прабіваецца між пустазелля гісторыі "Наша ніва" на палетках бяскрайніх беларускіх селькагаспадарчых *га.*

Эпіграф

# САМАВЫДАВЕЦТВА

Позна ноччу ў гаражы
Мы кляпалі тыражы
На прынтары натхнення
Ды ксераксе сумлення.
Клалі аркушы ў пракосы
Ды кляпалі, быццам косы:
Роўна
дзвесце
дзевяноста
дзевяць –
Можаце праверыць...
Хаця... можа і няроўна –
Не праверыце ўсё роўна.
Друкаваных словаў вера –
Косы літкасіянераў:
Бы сякеры гостраныя –
Нашыя апострафы,
Быццам кулі – кропачкі,
Быццам косы – касачкі...
У гаражох і ў сутарэннях
Не паставіць на калені
Унукаў дзеда Талаша
Ды Скарыны Пранціша.
Ня знішчыць аніколі
Ім наша літпадполле.
Свабоду і нязгоду
Кляпае год да году
У рэжыме “аўтамат”
Наш друкарскі андэграўнд –
Наш мастацкі самавыд,
Самачыт і самабыт,
Самаволя, самачас,
Самалёс і самапас...
Жыве мова з намі
У гаражнай яме,
Жыве ў нашым сэрцы
І ў самавыдавецтве.
Проза наша, вершы... –
Бы год сорак першы,
І літары сталі нам
Лініяй Сталіна...
Льецца ў лесе між ялін
Ды вяшчуе з-пад зямлі
Ад ночы і да ранку
Мова-партызанка...
Вымыкае з коваў
Свабодаю слова,
Кладзецца на паперы
Волею веры...

...Ноччу ў нашым гаражы
Жыве мова без мяжы.
Хай шукае вопер
Беларускі копір...

### *І ты, Брут*

Хто б падумаў – і ты, Брут,
Палез рылам у той бруд.
Быў ты, Брут, нам быццам брат,
Пакуль нос ня ткнуў у зад –
Бачна, як з дзяржзаду
Тырчыць нос твой здрадна,
Тырчыць нос твой, Бруце,
У гаўне і ў брудзе...

Так заторкнуў нюхаўку
У сістэмы пукаўку,
Што быццам бы, сабака,
Загнаў нам шыла ў сраку...

### *Бутэрброд*

Хтосьці яму ўпёр у рот
Экзатычны бутэрброд:
Шмат напхана ў бродзе тым –
Брадоў сто там у адным.
У гэтым сэндвічы нямала
Мяса, рыбы, сыру, сала...
Ёсць яшчэ да тога мяса
Там з залупамі кілбасы.
Мінералы з вітамінамі
У бутэрбродзе збалансіраваны,
Ды бруіцца з яго цечывам
Дабаўка біярэчываў...
Дык той хтосьці ў рот і ўпёр
З той дабаўкай гамбургёр:
Пад майанэзным совусам
Крапчэй паэта голасу,
Сыцей яго паэзіі
Пад слоем майанэзіі...
Падзякай за мычанне
Ды подлае маўчанне
Палезла ганарарная
Штука кулінарная,
Заткнуўшы яго ляпу,
Каб чагось ня ляпнуў –
Штосьці каб сказаць ня змог,
Хтосьці ўпёр яму хот-дог...

Жры!
Усё палезна,
Што ў рот палезла.

### *Сэксмісія*

З сэксуальным інтарэсам
Хтосьці зноў
глядзіць на крэсы –
Бачна вунь, тырчыць у пана
Рэч крывая з-пад жупана –
Рэч моцная, бы літая,
Таўстая, паспалітая.
Сядзіць на рэчы ўпарта
Гандоннай гумай карта.
Слізкай картаю паляка
Лезе да нас пан у сраку,
Трохі ззаду і з-пад нізу
Лезе ў анус слізкай візай...
Нех знайшоў бы пан паненку,
Ды курвіў яе пад сукенку,
Ды – надта ж хочацца пану
Схапіць нас за пахвіну...
Хоча пан, але ня можа,
Расцягнуць гандон да можа:
Гума мо дацягнецца,
Ды – парвуцца яйцы...

Пэўна ніц ня бэндзе, пане,
З тэго нашага кахання.

### *Рву*

Хай сабе не гэпэву
Установа эрвэву,
Ды калі дадуць загад,
Разарве да вуха зад...
Дый проста за зарплату
Парве зад без загаду.
Ад сракі і да вуха
Парве братоў па духу,
Парве і перамеле
Братоў сваех па целе...
Братоў парве ўсіх разам
Пакруціць на кілбасы.
Будзе рваць і будзе жраць...
...А тады братамі рваць...
...А тады братамі сраць...
Там і “рву”, і “сру”,
і “бзду”, –
Ва ўстанове эрвэву
Рвуць братамі за зарплату
Без загаду і з загадам...

Ля дзяржаўнага карыта
Расплываюцца ваніты –
Ой жа і бляватная
Установа рвотная...

### *Уга*

Доўга мы шукалі друга
І знайшлі нарэшце Уга.
У кішэні ў Угі хвічка,
Таму пахвік Угу дзічкі,
Мае нафту гэты Уга,
Таму пахвік Угу ўюга.
На індэйца Чынганчгука
Выдае сябрук наш Уга:
Бачыць скрозь усё навокал
Брат наш Уга зоркі сокал.
Нібыды, што ў носе ў Угі
Бзыкаюць, бывае, мухі,
Сраць хацелі мы на мух –
Дзе бяз мух мы знойдзем Уг?
Хто яшчэ прадасць нам нафту
За гранаты, аўтаматы,
За снарады, за ракеты?.. –
Толькі з мухай Уга гэты!
Хто залье нас нафтай, га? –
Толькі з мухай друг Уга!

Ад Дняпра і ўсцяж да Буга
Усіх напоіць нафтай Уга...
Непакоіць толькі звычка




***Спробы пералівання крыві з жывёлы ў чалавека сканчаліся, як правіла, няўдачаю...***

У кішэні трымаць хвічку –
Каб жа гэты наш аміга
Не падсунуў і нам хвігу.

### *Заглянула сонца і ў нашае аконца*

Гэта што за чалавек
Асвяціў наш сумны век?
Заглянуў ён праз аконца
Нашай яснай долі сонцам
Ды зіхціць у небе ўпарта
Міліцэйскаю кукардай...
Хто смяецца? Хто бліскоча?
І зыркоча, і рагоча?..
І ўсміхаецца бясконца
Яснай доляй у аконцы,
Сонцам
праз усю пашчэмку?.. –
Аляксандр Лукашэнка!
Аж лоб успрэў – так горача
Ад Аляксандр Грыгор'евіча.
Змрок развее праз аконца
Нашай сытай долі сонца.
Жраць захочам – сонца выме
З-пад сябе кароўе вымя,
З цыцкі давяне лапшу –
Аж павісне на вушшу.
А да локшынаў яшчэ
Панапхае авашчэй –
Свежых, толькі з агароду
Крамянкіх караняплодаў.
Панапхае нібы ў бочку
Тоўстых з градкі агурочкаў,
Кукурузных кіяшкоў,
Бульбы, бручкі, карашкоў...
Розных з градкі клубянёчкаў
Поўную напхае бочку,
А затым яшчэ натрэ нам
Тую бочку моцным хрэнам...
Непагасна сонца гэта
Грэе ўсю нашу планету,
Жменяй сыпле нам пратоны
Седзячы на царскім троне.
Ад відна і да відна
У прынцып аднаго акна
Ззяе кожнаму ў акошка –
Людзям,
глядзям,
шманьдамошкам...
Да нямытай шыбы палка
Прысмакталася піяўкай:
Цераз дзверы выпраш сонца,
Ды назад цераз аконца
Лезе ядзернаю сілай
Наша вечнае свяціла –
Незапынны наш рэактар,
Вечны беларускі трактар,
А таксама вечны наш
Неўміручы "Гомсельмаш".
Вечных прамянёў шчаціна
Чэша вечны комплекс свіна
І амброзіяй у рот
Вечна корміць наш народ...
Вечна вечныя шчацінкі
Вечняць вечныя дажынкі,
Вечняць вечныя кілбасы,
І саўгасы, і калгасы...
Не на дзень, не на гадок –
Вечны аграгарадок,
Вечны вугаль, вечны газ,
Вечны век і вечны час.
Быццам Новы Запавет
Ззяе вультра-фіялет –
Долі нашай сонца
Дорыць шчасця стронцый...

Сонца долі гладкай
Латае нам латкі...

### *Дыпламатычная місія*

Ну нашто нам дыпламаты?
Толькі носяць смецце ў хату,
А з хаціны нашай валам
Вымятаюць хлеб ды сала.
З гастраному знеслі ласа
Усе крухмальныя кілбасы.
З гэтым дыпімунітэтам
Зьелі нашыя каклеты,
Макаронныя іздзеллі
Нашы ўсе яны паелі,
Бульбу вынеслі ўсю вонкі –
Не пакінулі й паронкі.
І ў дадатак тыя госці
Падмялі сабаччы косці...
З Каларадаў нас хрушчы
Пасадзілі на храшчы.
Усё сажралі дыпламаты
З іхных Злучаных тых Штатаў,
І цяпер мы з голай сракай
Мусім пасылаць іх...
за межы краіны,
Мусім ім рабіць нон грату,
Гэтым самым дыпламатам –
З гэтых іхных пентагонаў,
З гэтых іхных Вашынгтонаў...

Цяпер будзем сабе самі
У нашай хаце мы паслами.

### *Канфарміст*

Усміхнуўся хлопец міла:
Маўляў, можна і бяз мыла!
За палучку, маўляў, вам
Нават без шампуню дам!
Ён стаіць ля магазіну
І дае без вазяліну...
Выдае ён праз амуры
Канфармізм літаратуры –
Недзе ў цемры сранай кішкі
Выспяваюць яго кніжкі,

У прадонні кішкі гэтай
Спеюць кніжкіны сюжэты
Цераз сраку зачатыя
Сацыяльназначымыя.
Спеюць вобразы і тэмы
Страваваальнае сістэмы...
Да дупла харчовым трактам
Прэ аналіз там упарта,
Штосьці ў жываце буркоча
Ды праз зад прабіцца хоча
У мальчышкі цераз кішку –
Лезе з заду яго кніжка,
Быццам тая іх кілбаска
Попу рве бяз мыльнай
змазкі...

Не спыніць пры магазіне
Літпрацэс без вазяліну:
Тут і бог, і чорт, і цар –
Канфармісцкі ганарар...
Магазінны іх тавар...

### *Падаткі*

Лысы ты ці барадаты,
А – заплаці ў казну падатак.
Акадэмік ты ці лох,
А – занясі ў казну налог.
Носіш бараду – рубля,
Аднясі ў "збяркасу", бля.
Палысець схацеў задарам? –
Ну-тка ж, даставай даляры.
За залупу і пахвіну
Заплаці-тка ж дзесяціну,
І за анус, і пупок
Занясі ў казну аброк...
Лепей па-харошаму
Разлічыся грошамі
З падаткавай інспекцыяй
За сваю эрэкцыю.
Ну, а струк адсохне як –
Усё адно давай ясак.
Усё адно плаці падаткі –
Ці худы ты, а ці гладкі.
Ці пусты, а хай і поўны –
Давай грошы ты ўсё роўна.
Каб не сапсавалі нервы,
Даставай з кішэні еўры.
Даставай з кішэні франкі,
Каб ня гнулі абаранкам.
Не напхалі каб міньетаў,
Хуценька гані манету.
Калі ласка, без прынукі
Аплаці ў "збяркасе" пукі,
Аплаці, бы вексялі,
Свае кучы і сцулі...
І лепш па-чалавечаму
Унясі капейчыну
У ворганы фіскальныя
За ворганы анальныя...

Завяліся мандавошкі? –
А чаму без растаможкі?..

### *Літпракурор*

Быццам у пракуратуру,
Крочыць у літаратуру
Крокам пругкім,
мэтным,
прыткім
Гэты літмастацкі крытык.
Крочыць крытык
крутым крокам
Па храбтох
і па эпохах,
І па жыццях,
і па лёсах... –
Зуха цягне боту нос ён.
Увесь час ён на чаку:
У чэкіста на кручку,
Бы жыўцы, сядзяць усе –
Ёсць на кожнага дасье.
Помніць крытык той упарты:
Кожны ў чымсьці вінаваты –
Калі што яму ня ў нос,

шЮтка



*Тыраназаўр калісьці быў лютым ворагам усіх жывых істотаў на Зямлі...*

Знае,
ставіць як вапрос
Маладым і ветэранам,
Сталяварам, партызанам,
Сталіністам, лукашыстам,
І трацкістам, і марксістам,
Баталістам, марыністам,
Рэалістам, мадэрністам,
Фаталістам, раманістам,
Кэдэбістам і чэкістам...
Камуністы...
Дэмакраты... –
Кожны яму вінаваты.
Можна кожнаму шыць смела
З яго твораў яго дзела,
А пасля цяжкое працы,
З маўзера,
які на срацы,
Позна ноччу, да відна
Стрэліць кулею з гаўна.
Вось пачуўся камандзірам:
Усіх ставіць па ранжыру,
Вышчараецца аскалам
Літмастацкага шакала...
Знае дзела крытык гэты –
Вечны Кучар наш і Бэндэ:
Знойдзе ён заўсёды тэму
Унутры пачварных схемаў,
Каб гарнуць, як кучу гною,
Дзе віламі, дзе нагою...
Каб варочаць кучу лычам,
Зарабляць пагонаў лычкі:
Леглі долары на плечы –
У званні вырас чалавеча.
Калі лычкі ёсць пры лычы,
Зусім іншае аблічча:
Выгляд мае важны
Воперупаўнаважаны.

Трохдаляравы цынізм
Напаўняе арганізм...
Нараджае крытынізм...

### Эліта

Ня спосабам эрэкцыі,
А метадам сялекцыі
Займела наша нацыя
Эліты генярацыю.
Ганарары за пачварнасць
Спарадзілі элітарнасць –
Найсвінейшую пароду
Адабралі з мас народу:
Лыч свіны, і валасы,
І свіныя галасы,
Ды свінскія капыты... –
Такая вось эліта.

Сыпеш у лыч бісер ім,
А яны ў зад – высерам...

### Наш пралетарскі адказ Чамберлену

Можаш спаць
спакойна,
сер –
Больш няма Бэзсэср.
Каб спалося лепш табе,
Заснавалі мы Эрбэ.

РАЦЭПТ ПАНАЦЭЈ

*Злое чэрава маразму
Добра лечыцца сарказмам.*




*Ужо за паўгады свінні дасягаюць вагі больш як цэнтнер, а пры забоі кожны падсвінак дае тушу на 72-80 кг...*

# КОМ І ДУША

***Дваццаць чацвертага снежня 2006 году Лявон Вашко даслаў Андраніку Антаняну рацэпт кому. Матэрыял змешчаны на сайце Андраніка Антаняна (http://antanian.draniki.com). Таксама ён друкуецца ніжэй.***




***На патэльню кладзецца размятая зваранае бульба, на бульбу кладзецца душа, на душу кладзецца бульба.***

**К**олькі б не кармілі нас бульбяным пюрэ, а ўсё адно душа просіць кому. Бульбу зварыць, растаўчы, прыправіць соллю, затаўкаць падсмажанымі з цыбуляю шкваркамі, можна дадаць трошкі алею і размяшаць, пакласці на патэльню, зляпіўшы форму караваю. Пасадзіць у печку ці ў духоўку і чакаць пакуль зарумяніцца. Я часам эксперамянтую: раблю ком з душою.




***Ком содзіцца ў натопленую печку.***

Начынне можа быць рознае: мяса, яйкі, грыбы, гародніна (тыерытычна і садавіна – але на практыцы не спрабаваў), плаўлены сыр. Неяк гатуючы на летніку я сфатаграфаваў працэс. Ня буду апісваць там, дзе можна паглядзець. Страва гэткая вельмі смачная, вартая таго, каб мы яе трымаліся як святыні, – усё бо ідзе з малога: спачатку мы забываемся на ком, тады яны нам тыцкаюць у нос сваёй пярдзючай сміцаю (смярдзючай піцаю), а пасля тыцкання сміцаю нам у нос пачынаюць выкрадаць ад нас беларускіх дзеткаў...




***Ком трэба вымаць тады, калі ён зарумяніцца.***

# ПАМЁР ШУЛЬЦ

2008



*Вячаслаў Кадач (1953 – 2008)*

Дваццаць шостага лютага 2008 году ў Мастох памёр Вячаслаў Кадач. Людзі ведалі яго як дзівоснага, шчырага чалавека і таленавітага музыку. Ён вызначаўся адкрытасцю, зычлівасцю, натхнёным адчуваннем жыцця. Знаёмыя між сябе называлі яго Шульцам. У 1971 годзе Шульц разам з іншымі неабыякавымі грамадзянамі рэспублікі вадзіў на ланцугу пеўня па вуліцах Гародні ў часе дэманстрацыі хіпароў, якая была разагнаная міліцыяй. Вячаслаў Кадач не дажыў некалькі месяцаў да свайго пяцідзесяціпяцігоддзя.



***Каралі мастоўскага музычнага андэграўнду... Злева направа: Вячаслаў Кадач, Галіна Андрэева, Аляксандар Жук. Масты, раённы Дом культуры. Жнівень 1970 году. Здымак з архіву Аляксандра Жука.***

кансалідацыя

**Не гаруй – флікаруй!**

**ноч над Бацькаўшчынай**

***ПАЗНАЧ СЯБЕ***

*апрані свой флікер*

мы вернемся

***...Настане дзень баёў апошніх!***
***Мы адступілі, каб было***
***Дзе легчы ворагу на пожнях,***
***Парослых сіняй гавылой.***

***А мы шляхі вярнуцца знойдзем,***
***Як вырай іх знаходзіць век,***
***Па сонцу, што над намі ўзойдзе,***
***Па звону беларускіх рэк.***

***МАКСІМ ТАНК***

мы вернемся

мы вернемся

***Лявон Вашко выказвае шчырую падзяку Алесю Зарэмбюку, Уладзіміру Каўшовіку, Зміцеру Кухлею за арганізацыйную дапамогу ў выпуску гэтага нумару "Дзеячасу".***

Літаратурны агляд "Дзеячас" № 13 (2008).
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдадзены ў Мастох. Самавыдавецтва. Збор 299 асобнікаў.

**Савецкая, 138, 231600 Масты, Беларусь**
**e-mail:liavonvashko@mail.ru**